*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 37(371)** **23 ВЕРАСНЯ 1998 г.**

Да 75-годдзя загадчыка кафедры беларускай мовы і літаратуры Беларускага ўніверсітэта культуры, доктара філалагічных навук, прафесара

## Грынчыка Мікалая Міхайлавіча

**Вельмішаноўны Мікалай Міхайлавіч !**

Шчыра віншуем Вас з 75-годдзем !

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны даўно ведае Вас як актыўнага працаўніка на ніве беларушчыны. Вашая навуковая, выкладчыцкая, культурна-асветніцкая дзейнасць засведчыла глыбокую прыхільнасць да роднай мовы, яе гісторыі. Пакаленні студэнтаў памятаюць Вашую ўлюблёнаць у родны край, заклапочаннасць лёсам беларускай мовы і літаратуры, намаганні па вывядзенні культуры беларускага народа з-пад саламяных стрэх на еўрапейскі ўзровень. Вамі ўпісаны важкі радок у адраджэнне Беларусі, і гэта трывалы падмурак для Беларусі заўтрашняй.

Дзякуем Вам за самаадданасць у рабоце, актыўную навуковую і грамадзянскую пазіцыю, за ўменне ў неспрыяльныя для Бацькаўшчыны часы пастаяць за незалежную Беларусь.

Жадаем Вам поспехаў у Вашай нялёгкай працы, здзяйснення задуманага, шчасця ў жыцці, шанцавання ў справах.

08.09.98г.

Сакратарыят ТБМ

***Віншаванне было ўручана прафесару Грынчыку М.М. асабіста ад імя Сакратарыята ТБМ на ўрачыстасці з нагоды ягонага 75-годдзя 8 верасня 1998 года. Адначасова з гэтым прафесар Грынчык быў прыняты ў правадзейныя сябры ТБМ.***

---

## Нашы шэрагі папоўніліся.

***Суайчыннікі!***

***Хто супраць дыскрымінацыі і здзеку над роднай Беларускай мовай, падпісвайцеся на газету "Наша слова"!***

***Каму неабыякавы лёс Беларускай мовы запісвайцеся ў ТБМ імя Ф.Скарыны.***

***Або выстаім і ацалеем, або далейшая русіфікацыя пакончыць з намі назаўсёды. Беларусаў, як нацыі не стане.***

***Ніл Гілевіч.***

Пад такімі лозунгамі прайшоў пікет, які ладзіла Завадская суполка ТБМ 4 верасня ў Менску ля станцыі метро "Аўтазаводская".

Мэтай пікета было яшчэ раз звярнуць увагу жыхароў раёна на жахлівае становішча, у якім апынулася беларуская мова — мова карэннага насельніцтва — нават у сталіцы нашай незалежнай дзяржавы. Прыводзіліся лічбы аб колькасці беларускіх школ і беларускамоўных класаў у школах нашага Заводскага раёна. І хаця за дзве гадзіны пікетавання на газету "Наша слова" ніхто не падпісаўся, але сам пікет прайшоў даволі цікава і змястоўна.

Мы ўпэўніліся, што далёка не ўсе жыхары нашага раёна абыякавыя да стану беларускай мовы і беларускай адукацыі ў краіне. Адбываліся цікавыя размовы, людзі дзяліліся сваім набалелым, прапаноўвалі матэрыяльную падтрымку, ад якой мы не адмовіліся і заносілі ахвярадаўцаў у ведамасць па збору ахвяраванняў.

А на прыканцы пікетавання знайшліся беларусы, якія папоўнілі нашы шэрагі — запісаліся ў сябры ТБМ і здалі ахвяраванні, гэта:

Барташэвіч Валянціна і Абрамовіч Сяржук.

Дзякуй Вам, шаноўныя. Калі нас стане больш, то мы разам больш зробім для сваёй Бацькаўшчыны.

Заяўка на пікет такой жа тэматыкі пададзена і на 11 верасня.

***Сябра ТБМ Заводскага раёна***
***Марыя Ігнатовіч.***

---

## Абвесткі.

1. Тут можна набыць касеты беларускіх гуртоў, бардаўскіх песень:

— пераход на ст.метро Пл.Перамогі" (да к-тр "Кастрычнік), "Фрунзенская" (да крамы "Тавары ў быце");
— пераход "Вакзал — Дружная";
— рынкі "Ждановічы", "Дынама";
— шапік "Карона" (скрыжаванне вуліц Я.Коласа і Сурганава);
— галерэя "Мастацтва"

Пытайцеся таксама ў іншых прадаўцоў — попыт параджае прапанову.

2. Кожную 2-ю сераду па Радыё — 1 вы можаце паслухаць перадачу "На ўсю моц" пра выканаўцаў беларускай музыкі.

3. У продажы з'явіўся беларускамоўны пераклад відэафільма "Пяты элемент".

# МІТЫНГ У АБАРОНУ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

16 верасня Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны і моладзевае грамадскае аб'яднанне "Хлоя" гербу "Пац" на плошчы Якуба Коласа ў Менску ладзілі мітынг з мэтай падтрымкі беларускамоўнай адукацыі і стварэння Беларускага Нацыянальнага Ўніверсітэта. Улады паставілі жорсткую ўмову - не больш 300 удзельнікаў, таму мітынгоўцы запрашаліся па спецыяльных запрашэннях. Незапрошанымі ўдзельнікамі станавіліся праходжыя, людзі на прыпынках грамадскага транспарту, ды нешматлікія на гэты раз міліцыянты.

Выступілі: Вольга Кузьміч, Лявон Баршчэўскі, Людміла Майсеня, Алесь Сядзяка, Галіна Дзягілева, Людміла Дзіцэвіч, Станіслаў Шушкевіч, Тацяна Ваніна, Святлана Іокша, унучка Якуба Коласа Марыя Міцкевіч, спяваў паэт і бард Валеры Пазнякевіч.

Былі прыняты рэзалюцыі з патрабаваннем спыніць перавод школаў на расейскую мову, адкрыць нацыянальны ўніверсітэт, зварот да грамадскасці аб цяжкім стане беларускай мовы. Была ўшанавана памяць Якуба Адамавіча Якубоўскага. Зачытана заява Сакратарыята ТБМ у падтрымку газеты "Наша Ніва".

### РЭЗАЛЮЦЫЯ
### Мітынгу ў абарону беларускамоўнага школьніцтва і за стварэнне нацыянальнага беларускага ўніверсітэта (Менск. пл.Якуба Коласа. 16 верасня 1998г.)

Удзельнікі мітынгу патрабуюць ад урада Рэспублікі Беларусь:

1. Спыніць перавод беларускіх класаў, школ і дзіцячых садкоў на расейскую мову навучання, які адбываецца на працягу апошніх чатыроў гадоў.

2. Публічна асудзіць выпадкі дыскрымінацыі вучняў беларускамоўных класаў, якія былі пазбаўлены свайго права вучыцца па-беларуску ў выніку пераводу класаў на расейскую мову і задаволіць канстытуцыйныя патрабаванні іх бацькоў навучаць дзяцей па-беларуску.

3. Аказаць дзяржаўную падтрымку захаванню і развіццю беларускай мовы, у прыватнасці ў галіне школы і дашкольнага выхавання і навучання. З гэтай мэтай аднавіць выкананне "Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў", якая была зацверджана пастановай Савета Міністраў БССР ад 20 верасня 1990 года і якую ніхто не адмяняў.

16 верасня 1998 г.

### ЗАЯВА
### Сакратарыята Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Вышэйшы гаспадарчы суд Беларусі зараз разглядвае справу газеты "Наша Ніва". Сутнасць канфлікту паміж Дзяржаўным камітэтам РБ па друку і рэдакцыяй газеты — у розных адносінах да так званай "тарашкевіцы", правапісу, якім у пачатку стагоддзя карысталася дэмакратычная беларуская прэса і на якой друкавалі свае гістарычныя творы Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі. Дзяржкамдрук кваліфікуе выкарыстанне "тарашкевіцы" як парушэнне пастановы Савета народных камісараў БССР ад 1933 года і адыход ад "агульнапрынятых нормаў".

Лічым неабходным заявіць, што, па нашым глыбокім перакананні, спецыяльным моваэнаўчыя праблемы не могуць вырашацца ў судовых інстанцыях. Мову народа, яе законы і гісторыю нельга рабіць зброяй у палітычнай барацьбе, выкарыстоўваць у кан'юктурных ідэалагічных мэтах. Спроба чыноўнікаў Дзяржакдруку навязаць прыватнай, недзяржаўнай газеце свае лінгвістычныя схільнасці з'яўляецца парушэннем канвенцыі аб грамадзянскіх і палітычных правах, да якой далучылася і Беларусь, і дае падставы гаварыць аб яшчэ адным факце ўціску незалежнай беларускай прэсы, аб імкненні звузіць сферу бытавання беларускага слова.

Мы заклікаем судовыя і выканаўчыя ўлады краіны пакінуць абмеркаванне правамернасці ўжывання ў друку "тарашкевіцы" ці "наркомаўкі" навукоўцам і журналістам і зрабіць усё магчымае для росквіту роднай беларускай мовы, для шырокага развіцця беларускамоўнага друку.

"Наша Ніва" павінна жыць!

***Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.***

Ухвалена на мітынгу 16 верасня 1998 г.



Голас БЕЛАРУСА

Пабачыў свет першы нумар газеты Менскай рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны "Голас беларуса". Фармат А-3. Аб'ём - 8 палос. Наклад - 299 асобнікаў. Заяўленая перыядычнасць - 2 разы на месяц. Рэдакцыйная рада: Саламонаў А.А.(старшыня), Віняцкі М.Ф.(в.а. галоўнага рэдактара), Варфаламеева Т.Б., Малевіч С.А., Белы А.Я., Савіцкі М.І., Каліноўская І.С.(адказная за мантаж), Ложнікаў А.А.(адказны за кампутарны набор). Кантактны адрас: Менск, вул. Варвашэні, 8. Тэл. (017) 212-84-50.

"Наша слова" вітае з'яўленне яшчэ адной газеты ТБМ і разглядае "Голас беларуса", як будучага надзейнага паплечніка ў змаганні за беларускую мову і Беларусь.

### Ахвяраванні на ТБМ

| | | | |
|---|---|---|---|
| Алег Трусаў | 100 т. | Алейнікава Валянціна, | |
| Афанасія Пашанькова | 200 т. | Бабруйск | 1 млн. |
| Беларускае выдавецкае | | Кузняцова С., Менск | 100 т. |
| таварыства "Хата" | 12 млн. | Сушко Рыгор, Бабруйск | 1 млн. |
| Васіль Петруковіч | 200 т. | Лабус Аляксандр, Менск | 200 т. |
| Лілія Жукова | 700 т. | Пратасеня В., Менск | 200 т. |
| Уладзімір Голубеў | 100 т. | Малашкевіч Г., Менск | 200 т. |
| Павел Мазейка | 200 т. | Вараб'ёў Аляксей, | |
| Аляксандр Канановіч | 600 т. | Маладзечна | 200 т. |
| Станіслаў Кныровіч | 600 т. | Мішук Рыгор, Менск | 100 т. |
| Анатоль Хацкевіч | 50 т. | Гойса І., Ліда | 1 млн. |
| Марыя Ігнатовіч | 60 т. | Ляскоўскі Алесь,в.Марцянаў- | |
| Антось Арцёменка | 50 т. | цы Ваўкавыскага р-на | 1 млн. |
| Андрэй Буракоў | 100 т. | Русан Сяргей, Баранавічы | 200т. |
| Вал. Барташэвіч | 25 т. | Зуева Зінаіда, Менск | 200т. |
| Сяржук Абрамовіч | 100 т. | Анісава Клаўдзія, п. Свіслач | |
| Вештард Галіна | 200 т. | Пухавіцкага р-на | 100т. |

## Светлай памяці сп. Якубоўскага

14 верасня памёр, а 15 верасня быў пахаваны на бліжэйшых ад Менска татарскіх могілках у Смілавічах Якуб Адамавіч Якубоўскі.

Большую частку свайго жыцця ён аддаў працы ў Беларускай энцыклапедыі, чым прынёс шмат карысці. А адразу пасля выхаду на пенсію і да апошніх дзён свайго жыцця — 6 гадоў — быў галоўным рэдактарам квартальніка татараў на Беларусі "Байрам".

Многія з нас з цікаўнасцю чыталі гэты часопіс, а некаторыя і змяшчалі ў ім свае матэрыялы. Квартальнік "Байрам" выдаваўся на беларускай мове; большасць беларускіх татараў менавіта яе ўважаюць за родную.

Якубу Адамавічу наша мова дакладна была роднай, у сваёй любові да яе ён быў паслядоўным і адданым, ганарыўся тым, што размаўляе на адной мове з тымі, для каго яна не сродак зносін, а душа нарадзіўшага яе народу.

Мы аддаём Якубоўскаму Якубу Адамавічу даніну сваёй найвялікшай павагі, сумуем разам з яго роднымі і блізкімі сябрамі Згуртавання татараў "Аль - Кітаб". Няхай лёгкай будзе яму зямля, адданасць якой ён падцвердзіў сваімі светлымі справамі, шчырымі адносінамі з яе жыхарамі.

Удзельнікі мітынгу на плошчы Якуба Коласа ўшанавалі яго памяць хвілінай маўчання.

***Сакратарыят ТБМ.***

Выканкам Беларускай Сацыял - дэмакратычнай Грамады смуткуе ў сувязі з заўчаснай смерцю сябра партыі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі вядомага змагара за адраджэнне беларускай мовы, гісторыі і культуры, аднаго з кіраўнікоў Згуртавання беларускіх татараў "Аль - Кітаб" Якуба Якубоўскага і выказвае спачуванне сям'і нябожчыка.

***Выканкам БСДГ.***





# Лінг пра Міцкевіча казаў па-беларуску



Вось і дажылі мы нарэшце да святкавання 200-ых угодкаў Адама Міцкевіча. 12 верасня ў Навагрудку, на Радзіме паэта, свята пачалося. Былі, вядома, і дагэтуль розныя імпрэзы чытанні ды выставы. Былі навуковыя канферэнцыі. Але ўсё ж сапраўднае святкаванне павінна было адбыцца менавіта ў Навагрудку. Што ж там адбылося?

Прэзідэнт на свята не прыехаў, дубок каля домамузея, як раней меркавалася, не пасадзіў. Прыехаў прэм'ер-міністр рэспублікі спадар Сяргей Лінг. Ён і распачаў свята ў Навагрудку. У сваёй досыць грунтоўнай прамове спадар Лінг адзначыў найвялікшую ролю Адама Міцкевіча, як у літаратуры, так і наогул у сусвеце. Калі Навагрудчына для Адама Міцкевіча была малым домам, то вялікім домам для яго была ўся Еўропа, — падкрэсліў прэм'ер-міністр. Спадар Лінг закрануў тое значэнне, якое надаваў вялікі паэт беларускай мове. Паэт знішчаў стэрэатыпы, якія існавалі сярод шляхты, наконт беларускай мовы. Вось каб хто сёння дапамог нашым уладам знішчыць тыя стэрэатыпы, якія замінаюць расквітнець нашай роднай беларускай мове! ( Л.С. )

Закрануўшы сучасны стан нашага грамадства, спадар Лінг распавёў аб тым, што адбываюцца змены ў сучаснай ментальнасці народа, што, на жаль, стварае некаторыя цяжкасці ў справе адраджэння культурнага жыцця. Адна з галоўных мэт дзяржавы , на думку спадара Лінга, — захаваць нацыянальную адметнасць беларусаў. Вашыя б словы, шаноўны, спадар Сяргей Сцяпанавіч, ды Богу ў вушы! ( Л.С. )

Улада ў нашай краіне, — падкрэсліў прэм'ер-міністр у сваёй прамове, — выступае гарантам працэсу адраджэння, захавання ў нашай краіне нацыянальнай спадчыны. Вось толькі ці патрэбна будзе тая спадчына чалавеку, які не будзе ведаць ані сваёй гісторыі, ані нават сваёй мовы?! (Л.С.)

Наступным выступоўцам стаў старшыня Навагрудскага райвыканкама спадар Ліс. Цвіком ягонай прамовы, на маю думку, было такое выказванне: "На працягу многіх гадоў жывуць на Навагрудскай зямлі ў міры і згодзе людзі розных нацыянальнасцяў..." Між тым Саюз палякаў намерваўся ладзіць пікеты ў гэты дзень у Навагрудку. У горадзе няма ніводнай польскай школы. Навагрудскія ўлады ўсё аніяк не даюць дазволу на адкрыццё такой школы. Пікеты не адбыліся, таму што спадар Гавін быў папярэджаны аб тым, што кожны пікетовец будзе аштрафаваны на 150 мінімальных заробкаў.

Калі казаць аб афіцыйным прадстаўніцтве на свяце, то патрэбна адзначыць, што, акрамя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, не прысутнічалі ў Навагрудку і Адамкус, і Квасьнеўскі, якія ў сваіх краінах узначальваюць арганізацыйныя камітэты па святкаванню 200-ых угодкаў Адама Міцкевіча. Польскую афіцыйную дэлегацыю ўзначаліў прадстаўнік польскага Міністэрства культуры спадар Януш Адрыёнш Пянёдзак. У сваёй прамове спадар Пянёдзак падкрэсліваў сусветнасць Адама Міцкевіча, як паэта і як грамадзяніна. Ужо ў другі раз сусвет адзначае год Міцкевіча. Першы раз гэта былі 150-ыя ўгодкі з дня смерці паэта, зараз — 200-ыя ўгодкі з дня ягонага нараджэння. Па словах польскага прадстаўніка, імпрэзы і выставы ў гонар Міцкевіча праводзяцца не толькі ў Еўропе, але і ў Вашынгтоне, Таронта. У Албаніі зусім нядаўна выйшаў першы пераклад "Пана Тадэвуша" на албанскую мову. А наогул, творы Адама Міцкевіча перакладзеныя на 50 моваў свету. Знакаміты рэжысёр Анджэй Вайда плануе зняць фільм па "Пану Тадэвушу". Гэта, на маю думку, толькі павінна надаваць нам, беларусам, гонару, бо "Пан Тадэвуш" — гэта наш твор, пра нашую зямлю і пра нашых людзей. (Л.С.)

Іншы прадстаўнік замежжа спадар Яцкунас — прадстаўнік Летувіскага сойму і прадстаўнік дзяржаўнай летувіскай камісіі па святкаванню 200-ых угодкаў Адама Міцкевіча — з гонарам падкрэсліў, што Вільня — гэта горад акадэмічнага юнацтва Адама Міцкевіча. Тут на ўсю моц раскрылася вольнадумства паэта. У 1987 г. каля помніка Адаму Міцкевічу адбыўся першы сімвалічны сход віленчукоў — гэта была своеасаблівая прэлюдыя летувіскага народа да свайго самавызначэння.



Асабіста мне найбольш спадабалася прамова старшыні Саюза пісьменнікаў, паэта Уладзіміра Някляева. Цытую: "Некарэктна нам перацягваць генія на адзін нейкі бок. Але ганарыцца тым, што ён — плоць ад плоці, кроў ад крыві, дух ад духу — належыць нашаму народу, мы маем права і не павінны гэтым паступацца. Міцкевіч сцвярджаў, што літаратура ніколі не страціць сваіх нацыянальных прыкмет і сам іх ніколі не страчваў". У 1831 г., — як падкрэсліў Уладзімір Някляеў, — Адам Міцкевіч у Парыжы стаў сябрам не польскага, а літоўскага таварыства. Напэўна, няма вялікай патрэбы тлумачыць, што Літва і Беларусь у тыя часы — гэта было адно і тое.

Напрыканцы свайго выступу Уладзімір Някляеў прачытаў верш "Уцёкі": "...І стала нея страшна, хоць ты ў ноч крычы, і ён рашыў з Радзімы ўцячы. Не выбраў ён краіну нізавую, а ўцёк ён, мову выбраўшы чужую..."

Вось такое было свята. Былі канцэрты, тэатральныя і навуковыя імпрэзы. Быў кірмаш, на якім я, дарэчы, нарэшце змагла прыдбаць "Пана Тадэвуша" на беларускай мове. Былі надрэнна выбрукаваныя вуліцы Навагрудка. Ходзяць чуткі, што на святкаванне ўладамі быў выдзелены 1 млн.даляраў. Гэты новы брук, напэўна, вельмі парадаваў жыхароў Навагрудка. Мне давялося пачуць, як адна старэнькая бабулька з кіёчкам ішла і мармытала сабе пад нос: "Дзякуй Богу і Адаму Міцкевічу, хоць перад смерцю па добрым бруку пахаджу!".

Калі ўжо нарэшце мы зможам сказаць: "Дзякуй Богу і яшчэ каму-небудзь за тое, што мова нашая і культура нарэшце выйшлі з занападу"?

*Лілея Сазанавец*
*г.г. Ліда - Навагрудак.*

**УВАГА: КОНКУРС!**

# Я МАЮ ПРАВА

**Дарагія юныя грамадзяне Беларусі!**

Сёлета сусветная супольнасць адзначае значную дату сваёй гісторыі — 50 гадоў з дня прыняцця Арганізацыяй Аб'яднаных Нацыяў "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека".

З гэтай нагоды Беларускі Хельсінкскі камітэт абвяшчае літаратурны конкурс "Я маю права", да ўдзелу ў якім запрашаюцца вучні 8-11 класаў.

Конкурсныя працы павінны адлюстроўваць Ваша разуменне ролі "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека" як для чалавечай цывілізацыі наогул, так і для нашай незалежнай дзяржавы, для Вас асабіста. Вы будзеце жыць у новай Беларусі. Якой Вы бачыце сваю Радзіму ў XXI стагоддзі? Што Вы самі паспелі ці мяркуеце зрабіць для ператварэння Беларусі ў дэмакратычную еўрапейскую краіну з развітай нацыянальнай культурай і высокім узроўнем жыцця, дзе будуць забяспечаныя ўсе правы чалавека? (Калі Вы не знаёмыя з тэкстам "Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека", звяртайцеся ў бібліятэкі або непасрэдна ў Беларускі Хельсінкскі камітэт.)

Для сваёй конкурснай працы Вы можаце абраць розныя жанры: мастацкае апавяданне, дакументальны нарыс ці замалёўку, публіцыстычны рэпартаж пра канкрэтную падзею ці нават паэтычны твор. Адзіная ўмова: Ваша праца павінна быць напісаная па-беларуску — на мове, ад будучыні якой залежыць і будучыня нашай дзяржавы.

Конкурсныя працы дасылаюцца ў двух экзэмплярах надрукаванымі на машынцы, набранымі на кампутары або ў рукапісу.

Тэрмін дасылання — да 1 лістапада 1998 г. (па паштовым штэмпелі). Апрача дакладнага адраса просім паведамляць і нумар Вашага тэлефона.

Журы, у склад якога ўвайшлі вядомыя пісьменнікі і грамадскія дзеячы, вызначыць адно першае, два другія і тры трэція месцы.

Пераможцы атрымаюць каштоўныя прызы. Лепшыя творы будуць апублікаваныя.

Конкурсныя працы дасылаць на адрас:

**Беларускі Хельсінкскі камітэт,**
**вул. К.Лібкнехта, 68, пакой 1201,**
**Мінск 220036 — з паметкай: НА КОНКУРС**
**Тэл. для даведак (017) 222 4800**

# Жнівенскія вандроўкі сяброў ТБМ

Нягледзячы на жнівенскія адпачынкі сябры і адказныя прадстаўнікі сакратарыяту ТБМ наведалі розныя раённыя гарады Беларусі з мэтай высветліць на месцы, як дзейнічаюць там рэгіянальныя структуры таварыства. Пачнём з Берасцейшчыны. Паездка ў Ляхавічы і Ляхавіцкі раён (в.Грушаўка) паказала, што мясцовая суполка ТБМ там ужо даўно не існуе. Таму і выпісаў у трэцім квартале газету "Наша слова" толькі адзін чалавек, актыўны змагар за Беларушчыну сп.Сокал. На свяце прысвечаным угодкам Адама Міцкевіча у в.Грушаўка - радзіме славутага Рэйтана, было раздадзена больш сотні асобнікаў "Нашага слова" як мясцовым жыхарам (пераважна вучням і настаўнікам) так і гасцям з Ляхавіч і Баранавіч. Было дамоўлена, што ў Ляхавічах зноў адродзіцца ТБМ. Актыўную работу па прапагандзе нашай газеты правёў галоўны рэдактар "Нашага слова" Станіслаў Суднік, які таксама прыехаў на свята. Другая паездка была здзейснена ў Кобрын. Кобрынская аб'яднаная арганізацыя ТБМ дзейнічае даволі актыўна. Сябры ТБМ Кобрыншчыны сабралі ахвяраванні на дзейнасць таварыства і газеты. Аднак подых русіфікацыі адчуваецца і тут. У раёне з 40 школ беларускамоўных засталося толькі 17 (сярод іх 10 сярэдніх, 6 базавых і адна пачатковая). Яшчэ ў двух школах ёсць пачатковыя беларускія класы.

У 9 гарадскіх школах засталося толькі некалькі беларускіх класаў, дзе навучаюцца 80 вучняў. Толькі адна самая вялікая школа ў мікрараёне па вул.Дзяржынскага (каля аўтавакзала) з'яўляецца прыемным выключэннем. Тут маюцца чатыры кабінеты беларускай мовы, працуюць цудоўныя настаўнікі. Таму і засталіся тут беларускія класы, у тым ліку два восьмых, а візуальная інфармацыя пададзена, у асноўным, па-беларуску. У раёне працуе 65 настаўнікаў беларускай мовы, аднак газету ТБМ яны не выпісваюць і нават не купляюць у кіёсках.

Актыўна працуе на прапагандзе беларускага слова ў горадзе раённая і дзіцячая бібліятэкі, дзе адбываюцца розныя цікавыя мерапрыемства. Аднак бібліятэкары і настаўнікі скардзіліся, што беларускія пісьменнікі і паэты, даўно забылі дарогу ў Кобрын і больш дзесяці апошніх год іх тут не было. А вось украінцы не забываюць Кобрыншчыну і кожны год тут праводзяць свята Тараса Шаўчэнкі.

Таму было вырашана ў канцы кастрычніка арганізаваць прыезд у Кобрын вядомых майстроў паэзіі і прозы, каб падтрымаць мясцовых актывістаў ТБМ.

Пад час паездкі ў Мсціслаў мы ўбачылі тое ж, што і ў Ляхавічах. Мясцовая структура ТБМ створана тут у пачатку 90-х гадоў даўно занепала і не працуе. У горадзе ўсе школы расейскамоўныя і газету "Наша слова" ніхто не выпісвае, за выключэннем бібліятэкі. Таму сакратарыят ТБМ з дапамогай фундатараў здолеў выпісаць нашу газету ва ўсе вясковыя бібліятэкі Мсціслаўшчыны на апошні квартал гэтага года.

Спадзяемся, што гэта дапаможа мсціслаўцам адрадзіць ТБМ і стварыць мясцовую філію ТБМ.

Аднак непадалёку ад Мсціслава, у горадзе Касцюковічы, дзе арганізацый ТБМ ніколі не было, у жніўні спадары муж і жонка Леўчанкі здолелі стварыць нашую суполку і правесці работу па падпісцы "Нашага слова" сярод настаўнікаў і вучняў.

Таксама там было распаўсюджана каля сотні асобнікаў нашай газеты..

Гомельшчына. Прадстаўнікі ТБМ наведалі Рэчыцкі, Жлобінскі, Светлагорскі раёны і г.Гомель. У Светлагорску рада ТБМ (кіраўнік сп.Маслюкоў) актыўна працуе. Тут існуе беларускамоўны ліцэй (10-11 класы), філія Менскага ліцэя, у якім 46 вучняў. У горадзе ёсць 6 беларускамоўных класаў у трох школах з 12. У іх навучаецца 108 вучняў з 12000. Ёсць яшчэ 12 класаў з паглыбленным вывучэннем беларускай мовы ў шасці расейскамоўных школах. Значная колькасць шыльдаў у Светлагорску, у адрозненні ад іншых гарадоў Гомельшчыны, аформлены па-беларуску.

Жлобінская арганізацыя ТБМ, якая паўстала ў горадзе ў ліпені зараз значна пашырылася і колькасць сяброў павялічылася да 50 чалавек. Асобная арганізацыя ТБМ зараз пачала дзейнічаць на Беларускім металургічаскім заводзе.Цяжкая сітуацыя з існаваннем ТБМ склалася ў Рэчыцы. Ніхто не ведае тут, пра існаванне нашай арганізацыі. У гарана прадстаўнікам Сакратарыята адмовіліся прадставіць інфармацыю аб колькасці беларускамоўных класаў. Магчыма, што тут іх ужо і няма. У горадзе Васілевічы Рэчыцкага раёна мясцовая арганізацыя ТБМ у сувязі з хваробай свайго старшыні практычна не працуе. Аднак мясцовыя настаўнікі, якія вядуць працу па захаванні народных традыцый у мясцовай школе згадзіліся аднавіць дзейнасць суполкі ТБМ.

У Гомелі адбылася сустрэча з кіраўніком абласной Рады ТБМ Анатолем Бароўскім. Ён праінфармаваў аб становішчы з беларускай мовай у Гомелі, дзе таксама існуе шмат розных праблемаў.

Гарадзеншчына. Актыўна працуюць сябры ТБМ у г.п.Дзятлава, а вось у Навагрудку сітуацыя вельмі складаная, бо арганізацыя ТБМ знаходзіцца ў стане глыбокага крызісу. Тут, на радзіме славутага А.Міцкевіча, большая частка шыльдаў на расейскай мове, а пра колькасць беларускіх класаў мы нічога не змаглі даведацца. Аднак прадстаўнікі мясцовых дэмакратычных сілаў абяцалі нам парупіцца пра адраджэнне нашых структур на радзіме славутага паэта.

Дзейнасць сакратарыяту ТБМ у жніўні завершылася правядзеннем 1 верасня ў цэнтры Менска вялікага пікета з патрабаваннем спыніць прымусовую русіфікацыю беларускага школьніцтва.

*Алег Трусаў,*
*намеснік старшыні ТБМ.*





# Праблемы беларускай адукацыі на Віленшчыне

Нядаўна прачытала, што французскія вучоныя, спецыялісты ў галіне педагогікі правялі цікавы эксперымент з маленькімі (5 - 10 тыдняў) дзяцьмі. З імі "размаўлялі" на роднай мове, а потым на іншых замежных. Высветлілася, што рэакцыя на гукі роднай мовы станоўчая, праяўлялася рэакцыя задавальнення. А ў адказ на чужую мову — адмоўная, рэакцыя — незадавальнення. Гэты эксперымент паўтараўся, і вынік аднолькавы, незалежна ад таго ад каго "ішла" мова, — ад маці, ці чужога чалавека.

Адначасова вучоныя ЗША, Англіі, ФРГ устанавілі яшчэ адзін вельмі важны факт. Дзіця дасягае зеніту ў сваім развіцці, дадзеным прыродай толькі тады, калі навучанне вядзецца на роднай мове. Вось і даводзіцца задумацца, а ці не калечаць сваіх дзетак бацькі, якія аддаюць іх у школы з чужой мовай навучання. Асабліва гэта тычыцца беларусаў. Яшчэ ў ХУІ стагоддзі Васіль Цяпінскі ў прадмове да "Евангеля", якое ён пераклаў на беларускую мову, выказаў заклапочаннасць, што некаторыя беларусы "ў польскія школы або іншыя сябе і дзеці свае без устыду запраўюць". Канец ХУІ ст. — залатая пара ў беларускай культуры княства Літоўскага, мова наша была шырока вядомай у свеце, у дыпламатычных колах на ёй вялася перапіска. Аб беларускай мове на пачатку ХУІ ст. віленскі пралат Эразм Вітэльлі ў сваёй прамове да папы рымскага пісаў: "Ліцвіны (жмудзіны) маюць собскую мову. Але дзеля таго, што русіны (беларусы) насяляюць пасяродак дзяржавы, усе звычайна карыстаюцца іхнаю моваю, бо яна далікатнейшая і больш лёгкая". Беларуская мова тады мела вялікі ўплыў на развіццё моў і культур суседніх народаў, польскага і маскоўскага. На беларускай мове напісаны Літоўскі Статут. Беларуская культура ў Вялікім Княстве Літоўскім развівалася бурна, таму што на Беларусі здаўна ўжо была пашырана асвета і школьніцтва. Ужо ў Х ст. калі толькі на Беларусь прыйшло хрысціянства, пры кляштарах адкрываліся школы, дзе навучалі чытаць і пісаць кандыдатаў у духоўны стан.

Гэткія школы былі ў Полацку, Смаленску, Тураве і іншых гарадах. Пазней дзякуючы стараннем праваслаўных магнатаў паўставалі і вышэйшыя школы, дзе навука часткова адбывалася па - беларуску. Так пры Свята -Троіцкім кляштары ў Вільні ў пачатку ХУІ ст. была заснавана так званая грэка - лацінска - руская школа. Яна канкуравала з віленскаю і полацкаю акадэміямі, таму і называлі яе неафіцыйна акадэміяй.

Паўстанцы 1863 г. — першыя патрабавалі адкрыцця беларускіх школ, Кастусь Каліноўскі пісаў: "Адкрываем школы маскоўскія, дзе беларускія?"

Польскія ўлады, акупаваўшы Заходнюю Беларусь, аднялі ў народа школы на роднай мове, замяніўшы яе чужой. У Віленскім краі на пачатку ХХ ст. больш палове насельніцтва складалі беларусы. Учынкі палякаў у дачыненнях да беларусаў і летувісаў зблізілі гэтыя два народы і 11 лістапада 1920 года ўрады Летувы і Беларусі падпісалі новую ўмову аб узаемнай дапамозе.

А так згодна звестак Віленскага Нацыянальнага Камітэта, у 1916 годзе ў Вільні было пяць беларускіх школ: на Антокальскай вуліцы-23, на Вострабрамскай-12, на Бернардзінскай-12 (Зарэчча), на Лукішках, на Звярынцы. У той час у беларускіх школах горада працавала 17 выкладчыкаў (настаўнікаў). А ў Віленскім, Троцкім, Свянцянскім, Ашмянскім і Лідскім паветах — каля 160 беларускіх настаўнікаў. Першага лютага 1919 г. у Вільні пачала працаваць беларуская гімназія, якая чвэрць стагоддзя ўзгадоўвала кадры нацыянальнай свядомай беларускай інтэлігенцыі, пакуль не была зачынена бальшавікамі ў 1944 годзе. Яшчэ ў 1921 г. у Вільні дзейнічалі педагагічныя курсы для падрыхтоўкі настаўнікаў беларускай мовы. Яны былі ліквідаваны польскімі ўладамі ў 1926 г.



Першы выпуск Віленскай беларускай гімназіі. 1-ы рад (злева направа) — [illegible]

**Першы выпуск Віленскай гімназіі. 1921 год.**

У 1921 г. у Вільні створана Таварыства Беларускай школы (ТБШ), якое вяло асветніцкую працу, закладвала прыватныя беларускія народныя і сярэднія школы, старалася, каб былі беларускія дзяржаўныя школы, выдавала кніжкі і свой часопіс "Летапіс ТБШ". Яно мела 10297 сяброў, больш 500 гурткоў, 11 акруговых упраў, больш 250 бібліятэк-чытальняў, колькі кнігарняў, розных драматычных секцыяў, гурткоў, хораў і т.д. Пасля закрыцця беларускай гімназіі ў Вільні, амаль паўстагоддзя аб ёй забаранялася ўпамінаць. Выкладчыкі амаль усе былі знішчаны, хто цудам уцалеў вымушаны былі працаваць альбо ў польскіх, альбо ў расейскіх школах. Такі ж выбар мелі і іх дзеці. І толькі пасля развалу СССР у Вільні зноў з'явілася магчымасць адрадзіць беларускае школьніцтва. Гэтая ідэя была выказана і здзейснна тымі віленчукамі — беларусамі, хто калісь закончыў віленскую беларускую гімназію. Сярод іх Лявон Луцкевіч, яго дзядзька Іван і бацька Антон выкладалі ў гімназіі і былі яе заснавальнікамі, Лявон Кароль, яго бацька, Сымон, таксама, выкладаў у гімназіі, Хведар Нюнька, спачатку ў 1989 годзе ў вузкім коле, сціпла адсвяткавалі 70 годздзе гімназіі, адчыніліся факультатывы беларускай мовы пры расейскіх школах, потым нядзельная беларуская школа, у 1991 годзе, набралі адзін беларускі клас, праз год яшчэ два, а яшчэ праз год усе дванаццаць класаў, спачатку пры расейскай школе, а ў 1994 годзе атрымалі асобнае памяшканне дзіцячага садка і ўрачыста адчыніла дзверы Віленская беларуская школа, з 1997 году яна носіць ганаровае імя Ф.Скарыны. Адбыліся чатыры выпускі, амаль усе выпускнікі вучацца ў ВНУ, як Летувы так і Беларусі. З кожным годам школа прыгажэе. Зараз тут вучыцца больш 150 вучняў і працуе каля 40 настаўнікаў. Вядома, цяжкасцяў хапае. Асабліва калі зараз у Беларусі не вельмі спрыяльны час для развіцця беларускай мовы, беларускасці, то можна ўявіць як "выжывае" беларуская школа за мяжой. З кожным годам усё больш прадметаў выкладаецца на летувіскай мове, дакументацыя таксама вядзецца на дзяржаўнай летувіскай мове. Кожны год праблема з наборам вучняў у першы клас, не вельмі ахвотна бацькі аддаюць сваіх дзетак у родную школу, стараюцца аддаць хто ў польскія, хто ў летувіскія, альбо расейскія. Вось тут хочацца параўнаць з летувіскай школай у Беларусі, якую я заканчвала. Каля 70 кіламетраў ад Вільні есць вёска Рымдзюны, Астравецкага раёна, Гарадзенскай вобласці. Мясціны там маляўнічыя, прыгожыя.

У тым куточку Астравеччыны ёсць шмат вёсак, дзе кампактна жывуць летувісы. З 1954 году ў вёсках Гіры, Гялюны, Міцюны, Гальчуны, а з 1961 г. і ў вёсцы Гярвяты па жаданню бацькоў у школах дзеці вывучалі летувіскую мову, ёю карыстаюцца ў штодзённым жыцці, на ёй вядзецца набажэнства ў Гярвяцкім касцёле. У час перабудовы, пачатак 90-х гадоў Летува пачала будаваць летувіскую школу ў вёсцы Рымдзюны, дакладней гэта не толькі школа, а вялікі культурны цэнтр на беразе ракі Ашмянка. Будаўніцтва вядзецца да гэтага часу. Двухпавярховае цікавае архітэктурнае збудаванне.

З 1996 году пачала працаваць летувіская школа ў Рымдзюнах, спартыўная зала, якой можа пазайздросціць любая гарадская школа, утульныя прыгожыя класы, ёсць музей энтнаграфічны пры школе, гатэль з шыкоўнай мэбляй, прывезенай з Летувы. Зараз там 79 вучняў і 13 настаўнікаў, толькі двое настаўнікаў мясцовых, усе астатнія з розных раёнаў Летувы, для іх пабудаваны алітускія дамкі. Вучняў прывозяць і адвозяць на аўтобусе. Усе прадметы выкладаюцца на летувіскай мове, 25 гадзін - беларускай мовы (з 1 па 11 клас) і 25 гадзін расейскай мовы. Настаўнікі звярталіся ў райана, каб дазволілі ў пачатковых класах не вывучаць расейскую мову, бо вялікая нагрузка для малодшых вучняў, але ім у гэтай просьбе адмовілі. З першага верасня ў Рымдзюнскай школе новы дырэктар з Вільні, прызначаны Альфонсас Швельніс. Там школа ў якой хочацца вучыцца, бо аб ёй клапоціцца Летувіская дзяржава, Летувіская амбасада ў Беларусі, у яе ёсць перспектыва і шырокія магчымасці. Гэта народ, які бясконца любіць і шануе сваю мову, гісторыю, культуру, сваю Радзіму, таму яны моцныя, аб'яднаныя.

Даводзіцца задумацца: ці не прычына адсталасці многіх акупаваных народаў, дзе была навязана школа з чужой мовай навучання? Ці не калечаць будучае сваіх дзяцей бацькі, аддаючы іх у чужыя школы, няхай і "прэстыжныя"?

*Леакадзія Мілаш*
*Ст.настаўніца Віленскай беларускай школы імя Ф.Скарыны.*
*1 верасня 1998 г.*
*г. Вільня, Yrigiskes, Kovo-11 n.53 b 29.*

# Закон ці здзек з беларускай мовы?!

У 29-ым нумары "Нашага слова" ад 29 ліпеня сёлета быў надрукаваны за подпісам А.Лукашэнкі "Закон Рэспублікі Беларусь: аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" (прыняты Палатай прадстаўнікоў 18 чэрвеня 1998 года і адобраны Саветам Рэспублікі 29 чэрвеня 1998 года). Уважліва перачытаў гэты "закон", і сёння цэлы дзень хадзіў са сапсаваным настроем: на маёй гістарычнай Бацькаўшчыне здзекуюцца з маёй роднай мовы! Пачуццё агіды выклікаюць цынічныя спалучэнні злучнікаў і (або): "У Рэспубліцы Беларусь вучэбная і выхаваўчая работа ў агульаадукацыйных школах вядзецца на беларускай і (або) рускай мовах" (артыкул 23). Я ў якасці прыклада гвалту над беларускай мовай прывёў артыкул 23 зусім не выпадкова! На парозе новы навучальны год, і гэты 23-ці артыкул "закона Аляксандра Лукашэнкі" развязвае канчаткова рукі антыбеларускім сілам у адукацыі: паспрабуй зараз паспрачацца, што няма беларускамоўных школ ці класаў, — "у законе чорным па беламу напісана, што "вучэбная і выхаваўчая работа вядзецца на беларускай і ( або )рускай мове". Бачыце, як "хітра" закручана: на ... і ( або ) ... Мне ўжо 54 гады, але я ўпершыню ў сваім жыцці бачу на ўласныя вочы "закон", у якім побач стаяць два злучнікі! Гэта ж трэба да такога вар'яцтва "дадумацца"! Зараз любы дырэктар — беларусафоб будзе тыкаць гэтымі "злучнікамі" ў твар беларускім патрыётам - бацькам, што ён адмаўляе ім у праве навучаць сваіх дзяцей па-беларуску, бо "закон аб мовах" "дазваляе яму гэта рабіць" — "вучэбная і выхаваўчая работа вядзецца на беларускай (злучнік "і" ён апусціць! ) або рускай мове" ... Калі б не было ў "законе" гэтага злучніка "або", тады яшчэ можна было б пазмагацца, а так, шаноўнае спадарства, "прыехалі": зараз пачнецца сапраўдная русіфікацыя ( яна ўжо вялася "падпольна": гляньце, як шпарка два гады запар мяняюцца на праспекце Францішка Скарыны беларускамоўныя шыльды, іншая рэклама на "понятный всем и каждому язык" у сталіцы краіны, а правінцыя, здаецца, ужо даўно "абрусела"! ), і не толькі ў сферы адукацыі: кожны артыкул у "новай рэдакцыі закона аб мовах" гаворыць пра здзек і гвалт над беларускай мовай, якая становіцца зусім не абавязковай у самых розных сферах дзяржаўнага жыцця краіны, "дзякуючы" злучнікам "і" ("або") — гэтым "шчытам" мовы ўсходняй дзяржавы, якая ў Беларусі адчувае сябе гэтак жа ўтульна, вальготна, як на сваёй этнічнай тэрыторыі ў Расейскай Федэрацыі. Што значыць "У Рэспубліцы Беларусь мовамі ў сферы культуры з'яўляецца беларуская і ( або ) руская мова"? ( артыкул 26 ) ? ! Гэта "значыць", што ў краіне пачнуцца хутка знікаць ( услед за класамі і школамі! ) беларускамоўныя тэатры! А каму яны будуць патрэбныя ў расейскамоўнай краіне?! Хутка беларуская мова знікне з канвертаў; паштовак, паштовых марак, таму што артыкул 28 "дае" на гэта "права" беларусафобам, якіх шмат у Міністэрстве сувязі і інфарматыкі РБ ( дасюль да мяне з Беларусі прыходзяць канверты, паштовыя маркі якія пагашаны штэмпелямі з надпісамі: "СССР. Руденск Минск.обл.", "СССР. Куренец Минск.обл.", "СССР. Несвиж Минск. обл.", "СССР. Вилейка Минск.обл.", "СССР. Шамовшина Могилёв.обл." і г.д. І вось ім артыкул 28 "дапаможа" да расейскамоўных ( савецкіх часоў, дзяржавы, якой ужо няма на геаграфічнай мапе! ) паштовых штэмпеляў дабавіць усё астатняе, бо "закон аб мовах" спрыяе гэтай "махінацыі": "Пошта і тэлеграф забяспечваюцца маркамі, канвертамі, паштоўкамі, бланкамі і г.д., надпісы на каторых выконваюцца на беларускай або рускай мове..." Вось так: на ... або ... на ...! Тут ужо няма злучніка "і", які б абавязваў рабіць надпісы на дзвюх дзяржаўных мовах, а толькі "або". А ў чыю карысць будзе гэтае самае "або", сёння і "вожыку зразумела"!

...Беларусь — краіна абсурдаў, і чарговы абсурд праявіўся ў так званым "зменёным і дапоўненым законе аб мовах": змененым на карысць расейскай мовы, дапоўнены злучнікавым спалучэннем "і" ("або"). І ў выніку маем непрыхаваны здзек і глумленне над святыняй беларускага народа — яго роднай мовай. Скажам, на Украіне ці ў Польшчы, нават у Славаччыне, дзе славацкая мова больш падобная на чэшскую, чымсьці татарская на турэцкую, такога здзеку не пацярпелі не толькі патрыёты, але і ўсё жыхарства. Дык чаму ж вы, б е л а р у с ы, маўчыцё?! Чаму аддаяце на здзек і ганьбаванне сваю мову ( а калі не сваю, бо ўжо абруселі, дык мову сваіх бабуль ці дзядуль?), чаму не баіцеся быць праклятымі нашчадкамі за тое, што не ўратавалі яе ад гвалтоўнікаў з Усходу і мясцовых памагатых-манкуртаў?!

Трэба змагацца з беларусафобствам! Хочаце, каб ваш сын ці дачка вучыліся па-беларуску, а ў той ці іншай школе вам адмаўляюць у вашым жаданні?! Не пасылайце дзяцей у школу да таго часу, пакуль не адкрыюць беларускамоўны клас! Не купляйце паштовак, паштовых марак, канвертаў, надпісы на якіх зроблены не па-беларуску. Тое ж самае з прадуктамі харчавання. напоямі і г.д.: купляйце толькі прадукцыю, якая на ўпакоўцы мае беларускамоўныя надпісы! Калі гэта будзе рабіцца масава, калі беларусафобы-вытворцы пачнуць несці страты ад непраданых тавараў з расейскамоўнымі этыкеткамі, яны самі пачнуць мяняць іх на беларускую мову! Сёння ў барацьбе за выжыванне беларускай мовы добрымі будуць усе метады барацьбы супраць наступу расейшчыны на беларускую мову.

Жыве Беларская мова!

*Рычард Ягелончык,*
*Украіна. 15.08.98г.*

